# „Родны Край“ і палітыка.

„Родны Край“ прысягнуў не займацца палітыкай. Так было напісана ў апошнім нумары чорненькай памяці „Беларускага Звону“, так пісалі першыя нумары „Роднага Краю“, так паўтараюць няраз рэдактары гэнае газэты, якая займаецца „толькі... культурнымі справамі“.

Трэба, аднак, адразу сказаць: мала хто гэтым абяцанкам верыў. Але былі і такія. Гэтыя лёгкаверныя не зразумелі, што сам заклік учарашніх рэдактароў „Звону“ і сёньняшніх рэдактароў „Краю“—Луцкевіча і Астроўскага, заклік, які гучыць: „далей ад палітыкі“ (палітыку пакіньце ім), „займаймася толькі культурнай працай“, што *сам гэты заклік ёсьць таксама пэўнай палітыкай* і то вельмі хітрай палітыкай, якою нашы „культурнікі“ хочуць асягнуць тыя-ж самыя мэты, да каторых раней ішлі пераважна іншымі шляхамі.

Нават для малога дзіцяці цяпер ясна, што галеча беларускіх масаў не зьяўляецца вынікам іх „някультурнасьці“, але зусім наадварот: „мала культурнасьць“ ёсьць вынікам гэнае галечы. Справа выхаду з галечы, з цяжкага, часта-густа жудаснага становішча беларускіх масаў, гэта справа *палітычная*, якую нельга адарваць ад усіх іншых палітычных справаў.

Аб чым-жа ў такім выпадку гаворыць нам заклік: „не займацца палітыкай“? Ён выразна гаворыць, што тыя, хто яго кінуў, *ня хочуць* выхаду з сучаснага становішча беларускага народу, лепшая будучыня. якога, неразлучна зьвязана з палітычнай актыўнасьцю найлепшых яго сыноў і перадусім—народных гушчаў. Тыя-ж, хто гэтаму супроцьстаўляецца, цягнуць нас назад у цемру, замацоўваючы нашу адвечную нядолю.

Так выглядае ў сапраўднасьці заклік „выключна займацца культурніцтвам“. Бяз сумліву: *культурная праца мае для нас вялізарнае значэньне* і ў гэтай галіне мы ня робім і дзесятай часткі таго, што павінны і маглі-б рабіць. Наш абавязак—узмоцніць намаганьня ў гэтым напрамку, але кожны раз, калі пачуем галасы за *выключнае* культурніцтва, мы павінны настаражыцца: *гэта голас нашых ворагаў*.

* * *

Наіўным быў-бы той, хто-б думаў, што Луцкевічы ды Астроўскія хоць для вока будуць трымацца свайга слова. Кожны нумар „Роднага Краю“ аткрыта абгаварвае палітычныя справы і чым далей, тым „глыбей“. А вось тут і паказваюцца ўсьцяж чортавыя рожкі.

У гэтай стацьці ня маем намеру ні абгаварваць *усіх* спраў, закранутых у „Родным Краі“, ні дыскутаваць з гэтым „шаноўным“ ворганам. Хочам *для прыкладу* зацытаваць пагляд „Роднага Краю“ на *адну толькі* справу, каб чытачы пабачылі, што ён, наперакор абяцанкам, палітыкай *займаецца* ды яшчэ як!

Нядаўна газэты шырока пісалі аб новым апрацаваным урадавым клюбам ББ, праекце канстытуцыі, паводле якога выбарчае права ў сэнат будуць мець толькі тыя, хто мае вышэйшыя ваенныя ордэры. Нямала гаворыцца таксама аб новым самаўрадавым законе, які дае правы выбіраць у вясковыя, гмінныя і гарадзкія самаўрады толькі тым, каму споўнілася 24 гады (а не як дагэтуль—21 год). Новы закон уводзіць таксама абавязак мець сярэднюю адукацыю для кандыдатаў на лаўнікаў, старшынь магістратаў і г. д.

Праект канстытуцыі абмяжоўвае правы народу наогул, новы самаўрадавы закон абмяжоўвае спэцыяльна правы маладога пакаленьня і працоўных, якія сярэдняй адукацыі і не каштавалі. Абавязак веданьня польскае мовы, які і пасьля адтэрміноўваючага закону астаўся шмат дзе ў моцы (гміна, павет, горад) — абмяжоўвае правы беларусаў, украінцаў, ліцьвіноў і жыдоў.

Як-жа на ўсе гэтыя справы адгукнуўся „Родны Край“? У № 17 гэтага воргану чытаем:

> „Дэмакратычная палітычная думка... павінна выступіць проці ўсялякага *вонкавага цэнзу*..., дапускаючы хіба толькі вышэйшы *цэнз веку і адукацыі* (падкрэсьлена рэд. «Род. Кр.»).

Шыла ў мяшку не схаваеш: процінародны твар нашых «нацыянальных» дзеячоў відзён аж надта. Яны за **цэнз веку і адукацыі**. Зразумела: Луцкевічы і Астроўскія, іх сынкі і дачушкі маюць нятолькі сярэднюю, але і вышэйшую адукацыю. Але як быць сярмяжным масам, якія наогул адукацыі амаль не атрымоўваюць? Паводле „Роднага Краю“ гэтыя масы павінны стаць *грамадзянамі другой катэгорыі*, а моладзь не павінна займацца грамадзкімі справамі.

Шчырае дзякуй!

Вось як гэтыя «культурнікі» «не займаюцца палітыкай».

* * *

Прыклад гэтае здрадніцкае палітыкі, побач з усёй дзейнасьцю Луцкевічаў, накіраванай **супроць** нацыянальных і сацыяльных правоў беларускіх народных гушчаў, — яшчэ раз даказвае, што дабіцца сваіх правоў гэтыя гушчы змогуць толькі вызваляючы сябе ад уплыву гэтых паноў і ў барацьбе з іх палітыкай,

*А. Леўскі.*

# Каты адточваюць сакеры.

За апошнія пару тыдняў працэс аб „падпал“ Рэйхстагу здолеў закончыць сваю бэрлінскую фазу і пераехаўшы зноў у Лейпцыг, увайсьці у апошні пэрыяд. Тэлеграмы паведамілі, што нямецкі ўрад моцна незадаволены зацягваньнем працэсу і асабліва тым рэхам, якое ён выклікае заграніцай. Таму ёсьць сэкрэтныя загады „паскорыць тэмпы“ і закончыць гэтую непрыемную гісторыю, як мага хутчэй. Адначасна брунатныя ўладары Нямеччыны напружыліся, каб як-небудзь выцягнуць загразлы вазок правакацыі хоць на крыху цьвярдзейшы грунт. Дзеля гэтых прычын былі дэлегаваны сьведкі Гэрынг і Гэббэльс у якасьці „цяжкай артылерыі“, якая-б сваім грамавым голасам заглушыла нястройны і нясуладны хор правакатараў меншага калібру.

4 лістапада, акружаны сваім штабам і апрануты ў брунатную форму штурмавіка, горда ўвайшоў на салю суду пруські прэм'ер і міністар унутран. справаў Гэрынг. Гэты арганізатар падпалу бітых паўтары гадзіны даказваў, што Рэйхстаг „падпалілі“ камуністы, Па адрасе сусьветнае грамадзкае думкі, Гэрынг кінуў: „не хачу тлумачыцца перад галотай!“ А „доказ“, што падпал быў „на руку“ камуністам вось: „я кажу перад усім сьветам — крычыць міністар, — што шчыра шкадую Рэйхстагу, пажар якога выратаваў ад шыбеніцы многіх камуністычных правадыроў!“

Сярод агульнае і напружанае цішыні падымаецца з лавы падсудных Дымітраў. Ен задае Гэрынгу некалькі спакойных пытаньняў, паказваючы між іншым на факт сур'ёзнага разыходжаньня паміж паказаньнямі самога Гэрынга і паліцэйскага прэзыдэнта Гэльдорфа. Гэрынг тлумачыцца, што вышла памылка, але адначасна пачынае нэрвавацца. Яшчэ пару спакойных заўвагаў Дымітрава і Гэрынг, махаючы кулаком, раве: „Што ты сабе думаеш, потра? Тваё месца на шыбеніцы!“ Калі, па загаду старшыні суду, выцягнутага ў струнку перад міністрам, паліцыя валачэ з салі пратэстуючага Дымітрава, яму ляціць усьлед бандыцкая пагроза Гэрынга: „Як толькі ты выйдзеш з гэтага будынку і я цябе схаплю, то ты яшчэ пабачыш!“

Гэтак скончылася выступленьне Гэрынга, які апрача крыку нічога дарэчнага ў справу ўнясьці ня змог, , але красамоўнае здэнэрваваньне якога дало значна больш матэрыялу для абвінавачваньня *не* Дымітрава і *не* Торглера, а *яго* самога.

Роўна праз 4 дні — 8 лістапада — з такойжа самай, як Гэрынг, цэрэмоніяй уваходзіў на суд міністар прапаганды Гэббэльс. Адразу было відно, што ён, навучаны досьледам гарачкі Гэрынга, будзе старацца быць спакойным і насторожаным на атакі падсудных. Гэббэльс бачыў сваю галоўную задачу ў тым, каб „пераканаць заграічных недаверкаў“. Ен упарта даводзіў якія „выгады“ камуністам даваў пажар Рэйхстагу і называў яго „сыгналам да паўстаньня“.

Зноў устае *Дымітраў:* „Ці сьведка можа сказаць колькі змабілізавана войска для задушэньня гэтага паўстаньня?“ *Гэббэльс:* „Абышлося бяз войска“. *Дымітраў:* „Ці пажар быў выкарыстаны для выбарчай агітацыі супроць камуністаў і сацыялістаў?“ *Гэббэльс* запярэчвае. *Дымітраў:* „Вось-жа я сам чуў па радыё прамову пана міністра“. У некалькіх мясцох Гэббэльсь усе-ж такі траціць панаваньне над нэрвамі і Дымітрава „прыходзіцца“ зноў стрымліваць старшыні шляхам крыкаў і пазбаўленьня слова.

У наступныя дні заўважваецца частковая зьмена ў захаваньні падсуднага Ван-дэр-Люббэ. 13 лістапада ён сядзеў з паднятай галавою і адказваў на пытаньні больш рашуча. Калі адзін са сьведкаў кажа, што напярэдадні пажару бачыў яго каля свайго дому, *Люббэ* адказвае: „Не магу сказаць“. *Старшыня*: „А дзе Люббэ быў пасьля?“ На вялікае зьдзіўленьне салі, падсудны рашуча кажа; „У націс“ (у нац. сацыялістаў, г. зн. гітлероўцаў). *Сшаршычя:* „Адкуль падсудны гэта ведае“. *Люббэ*: „Бачыў-жа іх у мундзірах“.

У далейшым суд дапытвае цэлы рад сьведкаў абароны з заграніцы і з канцлягераў, якія сваімі паказаньнямі выбіваюць грунт з-пад ног абвінавачваньня. 18 лістапада бэрлінская частка працэсу закончылася. 23 лістапада суд зноў пачаўся ў Лейпцыгу і працягнецца яшчэ да 3 тыдняў.

Сёньня ўжо нават ворагам відно, што Дымітраў, Торглер, Папоў і Танеў нічога супольнага з пажарам Рэйхстагу ня маюць. Але ням. фашызму гэта няважна: яму трэба ў асобах гэтых людзей засудзіць барацьбу нямецкае работніцкае клясы. Адна з францускіх газэт паведаміла, што падсудныя наперад *ужо засуджаны на сьмерць і што прысуд будзе выкананы так хутка, каб сьвет не пасьпеў запратэставаць.*

Але рух пратэсту ўжо коціцца і будзе нарастаць з кожным днём, прыбліжаючым нас да канца працэсу, гэтак падобнага да справы Сакко Ванцэцці, нявінна асуджаных і спаленых на электр. крэсьле ў Амэрыцы. Таму заклік старэнькай 80 гадовай маці Дымітрава на мітынгу да рабочых Парыжу: „Вырвіце з лапаў фашызму жыцьцё майг о сына, прысьведчанае пралетарыяту“! павінен гучна прайсьці па ўсей зямной кулі.

*К—сь.*

# „Па старонках „Летапісу“.

Выхад «Летапісу» зьяўляецца вялізарнага значэньня зьявішчам у жыцьці Таварыства Беларускае Школы. За кароткі час свайго існаваньня, „Летапіс“ здабыў сабе папулярнасьць сярод тэбэшоўскіх гушчаў і па-за межамі ТБШ. Аб гэтым сьведчаць і матэрыялы аб працы гурткоў і падпісная плата. З нумару ў нумар чытач, сквапна перабягаючы па старонках „Летапісу“, прыліпае зацікаўленымі вачыма да „*Хронікі Т-ва Белар. Школы*“, перажывае з сялянамі в. Кожава „*Ціхую трагэдыю*“, цэлым сэрцам гатоў крычаць разам з Улезлаўскім гуртком „*Выйдзем спаткаці вясну!*“ З зацікаўленасьцю чытаецца гісторыя дзейнасьці Бярэзьніцкага гуртка на Косаўшчыне, дзе сярод палескае дрыгвы *простыя людзі* з-пад саломяных стрэх, у пасталох з дзедаўскае ліпы і лазы, сталі артыстамі, мастацтвам якіх цешылася у, сэансы *па чарзе* 500 сялян, прышоўшы за 15—20 кілям. і даўшы, ня гледзячы на таннасьць білетаў, аж 94 зл. 40 гр. даходу.

Зацікаўленасьць і цягу да «Летапісу», як і да ўсяе працы ТБШ можна вытлумачыць толькі тым, што яны выказываюць настроі і жаданьні абуджаных народных гушчаў Зах. Бел., што ТБШ зьяўляецца ў сваёй аснове арганізацыяй працоўнага сялянства, работнікаў і адданае ім інтэлігэнцыі. Нават, калі адзінкі з кіруючых ворганаў робяць *пад чужым ідэалягічным уплывам* буйныя памылкі, Т-ва ў цэлым, як форма гуртаваньня сіл на культурна-асьветным адрэзку нацыянальна-вызваленчага руху, аставалася і астаецца надалей пляцоўкаю беларускага селяніна і работніка. А там, дзе гэтую пляцоўку пэўныя дзейнікі хацелі зрабіць *іншай*, там гурткі „канчалі“ сваё існаваньне вымоўнай формулай «завешаны за бязьдзейнасьць.»

Поруч з дадатнімі бакамі, якія ў «Летапіс», уносіць тэбэшоўскі *рух* з усіх куткоў Заходняе Беларусі, нельга не ад'значыць у матэрыялах пераважна рэдакцыйнага паходжаньня наяўнасьці пэўнае *сыстэмкі* не гарманюючых з цэласьцю поглядаў. Рознымі шчылінкамі прасочваецца ў „Летапіс“ *нацыяналізм*, што сьведчыць аб няпоўным разуменьні сутнасьці тэбэшоўскага руху і фактычна зьяўляецца крыніцай хістаньняў сярод кіраўніцтва ТБШ, ёсьць выхадным пунктам поглядаў аб „адзіным нацыянабльным фроньце“ з БХД.

„Летапіс“ у № 3-4 правільна крытыкуе „безнадзейнасьць у школьным пытаньні“, якую пашырае хадэцкая „Бел. Крыніца“. Але такая крытыка будзе *коўзаньнем па паверхні*, калі кіраўнікі „Летапісу“ астануцца пры думцы аб „адзінстве“ беларускага народу, аб тым, што ўсе яго пласты аднолькава прымаюць удзел у дамаганьні нацыянальных правоў, калі кіраўнікі „Летапісу“ будуць бачыць проста вучонага-беларуса, не зьвяртаючы на'т увагі на тое, *чыім* інтэрэсам служыць яго вучонасьць. Трэба зразумець, што хадэцкая прапаганда польскіх школ не зьяўляецца нечым адарваным, але ёсьць адлюстраваньнем думак заможніцкіх пластоў беларускага народу, пластоў, якія заўсёды ідуць на ўгоду з пануючымі і зьяўляюцца праваднікамі палянізацыі, беларусаў. Такая ўжо натура заможніка, „нацыянальны гонар“ якога абмежаваны магчымасьцю нажывы коштам працоўных.

Калі мы ўжо закранулі перадавы артыкул „Летапісу“ № 3-4 аб школе, дык заадно парушым яшчэ адну справу. Артыкул між іншым гаворыць аб неабходнасьці „дамагацца безадкладнага выкладаньня беларускае мовы (як прадмету—заўв. рэд.) ў польскіх школах“. Гэта ёсьць фактычна прапагандай *утрактывізму*, каторы некалькі гадоў таму назад праяўляўся ў форме польска—„беларускіх“ школ, з якіх беларусы дачакаліся ўсяго, толькі не карысьці і ад якіх цяпер сьляду на'т не асталося. Таму лічым такі заклік неправільным, падмяняючым дамаганьне роднае школы.

Нарэшце некалькі слоў аб напрамку культурна-асьветнай працы. Галоўнае—гэта разумець *месца*, якое яна займае ў нашым руху, не прыпісваючы ёй адначасна тых задач, якіх яна выканаць ня зможа. Кізевіч, сябра Гал. Упр. ТБШ ў артыкуле „*Курсы для дарослых*“ бачыць у культурна-асьветнай працы *поўны* выхад з сучаснага стану Заходняй Беларусі. Падобны хадэк Клімовіч бачыць выхад з гэтага стану ў каапэрацыі. Нельга не заўважыць паміж гэтымі двума цьверджаньнямі пэўную ідэалягічную лучнасьць. Але тое, што зусім зразумела на старонках хадэцкіх выданьняў, зьяўляецца дзіўным і незразумелым на старонках „Летапісу“. Хіба кожны разумее — а калі не, то павінен зразумець — што ніводзін народ, стоячы ў кутку з лемантаром у руках, не адстояў сваіх аканчальных мэтаў.

Нашыя крытычныя заўвагі ні ў якім разе не накіраваны на падрыў аўтарытэту „Летапісу“ сярод працоўных гушчаў. Наадварот—гэта павінна дапамагчы „Летапісу“ стаць *у кожным сваім радку* часопісяй беларускага сяляніна, работніка і працоўнага інтэлігента, часопісяй, каторая дасьць ім яшчэ больш карысную культурна-асьветную страву і грамадзкае выхаваньне.

*Баравізна.*

# Нашае жыцьцё.

## Вось, як у нас было!

(Баранавіччына). Паміж адносінамі сялян да папярэдніх самаўрадавых выбараў і цяперашніх—лягла глыбокая каляіна. Калі тры—чатыры гады таму назад рэдка хто цікавіўся самаўрадавым жыцьцём і сяляне зусім не разумелі значэньня, якое меў-бы самаўрад з запраўдных прадстаўнікоў сялян і работнікаў, дык затое цяпер сяляне раскусілі гэты гарэх і шырока разгарнулі перадвыбарчую працу. Гэтую перамену лепш за ўсіх адчулі нашыя абшарнікі, асаднікі і іншыя паны, ды пачалі так рабіць, каб ня даць сялянскай сьвядомасьці праявіцца ў выбарах.

Раптам вызначаныя выбары ў грамадзкія рады і іхны ход гавораць аб усім. Вось як у нас было. **Ляхавіцаая гміна:** *в. Мыслабане* — прыехаў войт—асаднік Скшынчынскі і прачытаў сялянам сьпісак № 1. Сяляне выставілі свой сьпісак, аднак войт яго ня прыняў і абвясьціў, што без галасаваньня (przez aklamację) праходзіць ягоны сьпісак; *в. Пашкоўцы*—аканом маёнтку Грушаўка, Казакевіч, падсунуў сялянам уложаны загадзя сьпісак і, ня пытаючы сялян, абвясьціў прынятым; *в. Пярэхрэсьце*—пан Мухоўскі з Грушаўкі не парупіўся нават склікаць сялян, а сам прачытаў салтысу складзены абшарнікамі і асаднікамі сьпісак ББ, кажучы, што гэта і ёсьць іхныя радныя; *в. Шчаснавічы*—выбары прайшлі таксама, як у Пярэхрэсьці; *в. Жарабковічы* — сюды прыехаў і сам рэфэрэнт бясьпекі баранавіцкага старацтва Баневіч і прачытаў сьпісак № 1, а сялянскага сьпіску нават узяць у рукі не захацеў; *в. Рачканы* — таксама прыехаў Баневіч з войтам, самаўрадавым інспэктарам і яшчэ з пару людзьмі, прачыталі хуценька рэгулямін выбараў, абвясьцілі прынятым сьпісак свой, а сялянскага ня прынялі; падобна было ў іншых вёсках Ляхавіцкае гміны. **Мядзьведзіцкая гміна:** *в. Мядзьведзічы*—склікалі вызначаных людзей і абвясьцілі ім, што яны радныя; *в. Гарадзішча* — выбары былі вызначаны на аўторак, а камісія прыехала ў панядзелак таго ж тыдня і ўсё „залатвіла; *в. Куршыцавічы* — дапусьцілі нават да тайнага галасаваньня, але прайшлі—на вялікае зьдзіўленьне сялян—кандыдаты камісіі. У суседняй *Сіняўскай* гміне (Нясьвіскі пав.) клікалі ўсіх вызначаных людзей і гаварылі ім, што яны выбраны раднымі.

Усімі гэтымі выбарамі сяляне вельмі незадаволеныя і масава складаюць пратэсты, падпісаныя сотнямі выбаршчыкаў. Які з гэтага будзе вынік—не вядома. Толькі ў в. Пярэхрэсьце паліцыя рабіла «доходзэне», спраўджала подпісы і пыталася, хто першы сказаў складаць пратэсты. За адзін дзень напісана ў гэтай вёсцы пратаколаў на 50 злотых.

*Ч. Я.*

## 15 мінут.

(в. Гаркавічы, Адэльскай гм., Сакольскага пав.). У нас, як і ў іншых вёсках, адбыліся выбары ў грамадзкую раду. Яшчэ перад выбарамі быў прысланы ў нашу вёску сьпісак з кандыдатамі, выстаўленымі самой гмінай. Хто яны, гэтыя кандыдаты? Адны такія, якім яшчэ сьніцца „цар-батюшка“ і другія—што ня любяць сьвядомых сялян і папаўшы ў раду, хочуць выкарыстаць яе для сваіх асабістых інтарэсаў на крыўду вёсцы; трэція — старыя, па 60 гадоў, каторыя забыліся, калі і на сходзе былі, як ня ведаюць на што патрэбен гэты самаўрад і яны ў ім. Солтыс атрымаў загад панясьці сьпісак кандыдатам для подпісу.

У дзень выбараў прыехала выбарчая камісія, прачытала свой сьпісак і зажадала, каб сяляне хутчэй падпісалі, бо „niema czasu“. Сьвядомыя сяляне заявілі, што гэтага сьпіску не прызнаюць, а выставяць свой. Камісія пачала выкручвацца, што на злажэньне новага сьпіску няма часу. Нарэшце ахвяравалі 15 мінут часу. Думалі, што мы не пасьпеем. Але за 15 мінут сьпісак быў гатовы. Бачучы гэта, камісія пусьцілася на новыя хітрыкі. Сказалі што, нашымі кандыдатамі не падпісаны дэкларацыі, а новых 15 мінут не далі. Цікава, што з нашага сьпіску „уневажнілі“ аднага раднага за тое, што быў паданы за „Władysława“, а ў выбарчым вясковым сьпіску ён называўся „Włodzimierz“.

Адкінуўшы наш сьпісак, камісія пачала чытаць свой. Тады сяляне, як адзін чалавек, пакінулі сход. Так пачаўся наш „samorząd“. Пасьля гэтата з гміны яшчэ раз прыслалі свой сьпісак, але ізноў ніхто не падпісаўся, а падалі да старосты дамаганьне з падпісамі цэлае вёскі, каб зрабілі новыя выбары.

*Выбаршчыкі.*

## Выставілі сваіх кандыдатаў.

(в. Зубры, Галынскае гм., Горадзенскага пав.). Нашы выбары ў вясковую раду былі такія: сабраліся мужыкі, а тут і гатовы сьпісак кандыдатаў, выстаўлены панам войтам,—толькі падпісвай. Сяляне сабраныя за[illegible] „Нашто нас тады клікалі, калі і бяз нас ужо в[illegible]алі? — Не падпішам!“ Старшыня камісіі прымушаны быў згадзіцца, каб і мы свой сьпісак выставілі. Сяляне падалі сьпісак. Тут, аднак, вылез наш багацей падліза Брэўчык і выставіў яшчэ адзін сьпісак з кандыдатурамі: сына, бацька і дзядзькі. Але на іхні сьпісак не было каму галасаваць, бо сяляне ведаюць, што гэта за птушкі.

*Вясковы.*

## Дарожкі, якімі цячэ крызіс.

(Дзевяткавічы, Слонімскі павет). З усіх кутkоў нашае Заходняе Беларусі даходзяць галасы аб злыбедах сялянскага жыцьця. Ня лепш і нам жывецца. Бадай што ўсе вёскі Дзевяткаўскае гміны, за выняткам лічаных адзінак, нецярпліва чакалі лета, каб хутчэй угнаць на хлеб, якога ў многіх да каляд ня было. А там аддаць багацею-ліхвяру пазычку за пуд—два пуды. Праўда, хлеба і бульбы дачакаліся—голаду няма, але як надоўга? Вось ліха за ліхам, „упомнене“ за „упомненем“, на 1 зл. 50 гр. кожнае. Усё за розныя падаткі, а калі хто купіў які гэктар, то на яго ідуць „упомненя“ асобна. Не пасьпелі мы яшчэ і нажаць, як тут і даўно знаёмы нам сэквэстратар зьявіўся. Дык прыходзіцца прадаваць той апошні пуд, бо нічога другога няма, даўно праданае. Многія мелі надзею, што зьменшаць падаткі, бо гэткае жыцьцё далей немагчыма. І вось наперакор нашым надзеям „Рольнік Новогрудзкі“ № 37 паведамляе, што ўведзены „для дробных рольнікув“ 10% дадатак да падатку грунтовага на „воевудзтва всходне“, які мае прынясьці 22 мільёны для пацняцьця цэнаў збожа. Дык вось цешся і радуйся бедната, змушаная сёньня прадаваць за бесцан, а навесну купляць утрыдорага, калі нават і ўдасца дзе зарабіць які грош, а не, дык галадуй, еш крапіву, лебяду ці валошку,

Дык вось мы, беларуская сялянская бедната, гутарачы аб сваёй нядолі паміж сабою, хочам, каб праз нашу газэту ўвесь сьвет пачуў і пабачыў, якімі дарогамі цячэ крызіс. Як яго спыніць? Мо‘ кс. Станкевіч з Луцкевічам памогуць нам сваімі „парадамі“?— Хутчэй усяга, як кашаль хваробе. Надзеймася толькі на свае ўласныя сілы.

*Бедняк.*

## Дамагаюцца школаў.

(в. Жукойні, пав. Сьвянцянскі). Па нашых кутках многа гавораць аб такім факце. У вёсках Баранях і Белай-Вадзе ад пачатку сёлетняга школьнага году бацькі не пасылаюць дзяцей у польскую школу. Але каб выясьніць усю справу, мушу вярнуцца крыху назад. У гэтых вёсках школы заснаваліся ад часу нямецкай акупацыі і былі да 1932 году. У в. Баранях была ўвесь час школа беларуская і толькі потым, дзякуючы двум падлізьнікам, стала польскаю, якою і была да апошняга часу. У в. Белай-Вадзе школа была польскаю праз увесь час. Летась адбылася рэформа школаў. Калі раней кожная з гэтых вёсак мела сваю школу, дык цяпер зрабілі толькі адну—на засьценку Фаліну. І так з в. Барані больш 40 дзяцей змушаны бегаць паўтары вярсты, а з Белай-Вады больш 45 дзяцей — дзьве з паловай вярсты. З каленіяў Дуброва больш 25 дзяцей ідуць тры вярсты з гакам, а гэта дзеці польскіх каляністаў. Разам звыш сотні дзяцей мусяць ісьці праз хнызьнякі і шукаць упустыні школы.

Калі ў 1932 годзе сяляне гэтых вёсак даведаліся пра „рэформу“, то адразу зрабілі „забастоўку“, не пасылаючы дзяцей у школу. Але тады сялян адгаварыў пан войт і школьная адміністрацыя. Пачалі гэтыя паны прыяжджаць ды казаць, што яны толькі дачасу перавялі школы ў Фаліну, а на другі год зноў вернуць назад. Тлумачылі тым, што ўжо крызіс зараз міне, а тады ў кожнай вёсцы будуць трох-клясовыя школы. Мінуў год і сяляне, пабачыўшы, што школы і надалей астаюцца ў Фаліне, пастанавілі дружна стаць у абароне сваіх дзяцей, ня пускаючы іх у школу. Сяляне кажуць, што мы бедныя і ня маем у што адзець і абуць дзяцей, каб яны маглі за столькі вёрст шукаць „у пустыні“ школы; падаткі мы плацім такія як і раней плацілі, дык і школы можам мець таксама як і раней мелі. Што з усяго гэтага выйдзе, я чытачам „Беларускай Газэты“ напішу.

*Адоля.*

*Ад рэдакцыі*: Мы лічым, што дамаганьні сялян слушныя і думаем, што дамагацца трэба ня толькі наагул школаў, але школаў беларускіх, на якія нашы сяляне маюць поўнае права.

## Крыху аб сабе.

(в. Мыслабаж, Ляхавіцкай гм., Баранавіцкага пав.). Наша вёска кранулася нацыянальна і сацыяльна толькі з 1925 году. Ад гэтага часу пачалі мы выпісваць беларускія кніжкі і газэты, ладзіць беларускія спэктаклі. У 1930 годзе граф Касакоўскі заплаціў нам гарэлкай за тое, што мы наняліся арганізаваць паляваньне-аблаву. Гарэлку мы прадалі, а за выручаныя грошы выпісалі украінскую газэту „Сельроб”, бо тады беларускае прэсы ня было, а „Крыніцаў“ і „Званоў“, якія бясплатна лезьлі ў беларускую вёску, мы ня лічылі беларускімі, а проста спэкулянтамі у беларускім вызвольным руху. У 1932 годзе хацелі мы паставіць «Янку Канцавога» і «Зьбянтэжанага Саўку», але апрача выдаткаў на паданьне і паездку да старостве, нічога болей ня мелі. Але гэта нас не адапхнула ад працы і мы пачалі думаць аб арганізацыйным жыцьці. Маючы за прыклад в. Рачканы, пастанавілі і мы згуртавацца ды залажылі спажывецкі каапэратыў, арганізацыйна злучаны з каапэратывам у Рачканах. Дзякуючы нашай салідарнасьці, прыватная крама ў нашай вёсцы не змагла канкураваць з каапэратывам і хутка зьліквідавалася.

Ня так даўно завітала да нас «Беларуская Газэта». Мы яе спаткалі з вялікай радасьцю, бо пераканаліся, што яна ёсьць люстрам, дзе адбіваецца мазольнае жыцьцё. Наперакор бязглуздай напасьці розных „Крыніцаў“ ды „Краёў“, мы яе чытаем з вялікім зацікаўленьнем. Ня гледзячы на страшную галіту, мы, аднак, знаходзім выхад і забраўшы 16 ліпеня з вясельля перапой, прадалі, а грошы скіравалі на нашу „Беларускую Газэту“, ведаючы, што нашым абавязкам ёсьць падтрымаць яе матэрыяльна.

Сярод нашай моладзі пануе згоднае сужыцьцё, яна з кожным днём усьведамляецца. На вечарынках наша моладзь сьпявае родныя беларускія песьні. Гутарым толькі пабеларуску. Носім вышываныя кашулі і спадніцы. Але мы ведаем, што ня ўсё тое нашае беларускае, што пабеларуску пішацца і малюецца. «Беларускай Крыніцай» і „Родным Краем“ у нас абсалютна ніхто ня цікавіцца і толькі дзівімся, што ксяндзоўскае сумленьне і хадэкаў такое чорнае, як іх сутаны і ня можа адчуць нашай да іх пагарды.

*Кас. Бай.*

---

**Паведамляем усіх падпішчыкаў „Бел. Газ.“, каб падпісную плату слалі на конто Р. К. О. № 144.511. Уласьнік конта — інж. А. Карповіч.**

---

# Апошнія навіны.

## Польшча

### Безработныя.

На 18 лістапада ў Польшчы на біржах працы было зарэгістравана 229.672 безработных. У параўнаньні з мінулым тыднем лічба безработных узрасла на 7.627.

### Забастоўка ў нафтавым басэйне.

У нафтавым басэйне каля Новага Сончу распачалася забастоўка рабочых. Спынілі працу капальні „Якуб“, „Эльжбета“, „Нагрода“ і „Мазовшэ“ ў Ліпінках. Да забастоўкі маюць далучыцца рабочыя капальняў „Ліпа“, „Лібуш“ і „Ютшэнка“. Рабочыя дамагаюцца выкананьня калектыўнага дагавору, а таксама 8 гадзіннага дня працы і адпускоў.

### Польска-нямецкае паразуменьне.

15 лістапада Гітлер у прысутнасьці міністра фон Нэйрата прыняў польскага пасла Ліпскага. Бюро Вольфа паведамляе, што абмен думак паказаў *поўную* згоднасьць абодвых урадаў адносна вырашэньня справаў датычаных абодвых дзяржаў шляхам непасрэдных перагавораў, без ужываньня сілы. Назаўтра гэтыя словы былі падмацаваны заявай польскага міністра замежных справаў — Бэка. Орган польскага ўраду „Газэта Польска“ называе абмен дэкляарацыяў 15 лістапада важным фактам гістарычнага значэньня.

Цікава, што Гітлер зрабіў гэты рашучы крок у бок Польшчы пасьля „выбараў“ і плебісцыту. Польска-нямецкае збліжэньне стала палітычнай сэнсацыяй дня і аб ім гаворыць уся эўрапэйская прэса, асабліва польская і нямецкая.

## Заграніца

### 16 угодкі кастрычніцкай рэвалюцыі.

7 лістапада ў Маскве адбылося ўрачыстае сьвяткаваньне 16 угодкаў рэвалюцыі. Сьвяткаваньне распачалося прамовай старшыні ЦВК Калініна. Перад маўзалеем Леніна прадэманстравала Чырвоная Армія і мільёны рабочых. Парад Чырвонай Арміі прымаў заступнік народн. камісара па вайсковых і марскіх справах Тухачэўскі. На дыпляматычных трыбунах зьвяртала на сябе ўвагу прысутнасьць польскіх лётнікаў, якія акурат прыехалі ў Маскву. Па ўсім Сав. Саюзе 16 угодкі рэвалюцыі былі ад‘значаны перавыкананьнем плянаў будаўніцтва і пускам новых фабрык і заводаў.

### СССР і Японія.

Рад правакацыйных выступленьняў Японіі, якія мелі месца ў пачатку лістапада на манчжурскай граніцы, выклікалі ў Сав. Саюзе вялікае абурэньне, якое знайшло сваю праяву ў прамове старшыні савету народных камісараў Молатава на вечары, прысьведчаным 16-годзьдзю рэвалюцыі. Молатаў між іншым гаварыў: „Пляны некаторых выдатных японскіх дзеячоў аб захваце Сібіру і Прымор‘я, а таксама правакацыі, якія ста-

новяцца ўсё больш аткрытымі і наглымі—прымушаюць нас быць на варце. Мы паказалі сваё жаданьне захаваць мір, але гэта не закрывае нам вачэй на палітычныя манэўры Японіі. Савецкі Саюз гатоў прыняць выклік у выпадку, калі японія на яго нападзе. Тады мы будзем бачыць нашае заданьне ў адным: у поўным разгроме ворага і перамозе Чырвонай Арміі".

### Навязаньне дыпляматычных адносінэў паміж Амэрыкай і СССР.

У выніку гутарак, якія адбываліся ў Вашынгтоне паміж прэзыдэнтам Рузвэльтам і народным камісарам замежных справаў Літвінавым, 17 лістапада наступіў афіцыяльныы абмен лістоў у справе праўнага прызнаньня Амэрыкай Сав. Саюзу. Прызнаньне гэтае выклікала моцнае ўражаньне па ўсім сьвеце, асабліва ў Японіі, Нямеччыне і Англіі. Савецкая прэса ацэньвае факт прызнаньня, як „вялікую перамогу мірнай палітыкі СССР". „Правда" падкрэсьлівае, што прызнаньне сталася фактам, дзякуючы ініцыятыве прэзыдэнта Рузвэльта. Яно набірае асаблівага значэньня ў хвіліну, калі сьвету пагражае небясьпека вайны з боку розных імпэрыялістычных дзяржаваў Эўропы і Азіі.

Савецкі ўрад ужо вызначыў свайга пасла ў Амэрыку. Ёсьць ім Траяноўскі, б. савецкі пасол у Токіё. Амэрыканскі ўрад пасылае ў СССР сваім паслом Бульліта.

### „Выбары" ў Нямеччыне.

12 лістапада ў Нямеччыне адбыліся „выбары" ў Райхстаг, а таксама плебісцыт (народнае галасаваньне) над замежнай палітыкай ураду. Выстаўлены быў, як вядома, толькі адзін нацыянал-сацыялістычны сьпісак Гітлера. Вынікі „выбараў" можна, было прадбачыць і таму яны ня выклікалі такога зацікаўленьня, як ранейшыя нямецкія выбары. Самы „выбары" адбываліся ў варунках страшэннага тэрору. Было загадзя абвешчана, што кожны, хто адмовіцца ад галасаваньня, або галасаваціме супроць — будзе лічыцца „здраднікам народу" і тады бяда яму. „Галасаваць" прымушалі нават вязьняў у канцэнтрацыйных лягерах. Каля выбарчых пунктаў аж раілася ад штурмавікоў, каторыя раздавалі карткі і прадавалі значкі з словам „так", што азначала згоду з палітыкай ураду. Значкі куплялі блізу усе выбаршчыкі—сымпатыкі і ворагі. Вынікі „галасаваньня", апрача ўсяго яшчэ сфальшаваныя, выглядаюць наступна: упаўнаважаных да галасаваньня было 44.850.000, аддана важных галасоў за сьпісак Гітлера—39.655.288 (92,2 проц.), а „няважных", г. зн. *супроць*—3.325.288 (7,8 проц.). Вынікі плебісцыту: галасоў „.так" — 40.618.147 (93,4 проц.), „не"—2.055,363 (4,4 проц.). Нават пры такіх „выбарах" блізу *тры з паловай мільёны работнікаў* высказаліся супроць Гітлера.

### Перадвыбарчая прамова Гітлера.

Нямеччына стаіць безпасярэдня перад „выбарамі": Выстаўлены толькі адзін сьпісак, на якім кандыдатуюць галавары гітлероўскае партыі. Усе іншыя сьпіскі забаронены. Падрыхтоўка да выбараў адбываецца ў умовах узмацненага тэрору. Агітацыя нац.-сацыялістаў у поўным разгары. Нядаўна Гітлер у спартовым палацы ў Бэрліне сказаў выбарчую прамову, у якой, побач з нараканьнем на несправядлівасьць вэрсальскага трактату, падкрэсьліваў больш чым калі гатоўнасьць нямецкага ўраду да супрацоўніцтва з кожнаю суседняю дзяржавую на груньце барацьбы з бальшавіцкаю небясьпекаю для ўсяе Эўропы. Гітлер зьвяртае ўвагу, што ўстаноўлены паміж Польшчай і Нямеччынай карыдор, зьяўляецца вялікай крыўдай для нямецкага народу. Можна было знайсьці іншы выхад, каторы задаволіў бы абедзьве староны. Далей правадыр гітлерызму зазначае, што нямецкі ўрад гатоў выцягнуць руку згоды, гатоў супрацоўнічаць з Польшчай, Францыяй, Англіяй, Італіяй. Супрацоўніцтва гэтае мае быць абапёрта на супольнай барацьбе з бальшавізмам. У-ва ўсей сваей прамове Гітлер шмат мейсца пасьвяціў распальваньню нацыяналістычнага шавінізму, прыкрываючы гэта фразамі аб барацьбе за ратаваньне нямецкага народу.

## Віленская хроніка

**Неяк у пачатку** гэтага месяца ў „беларускай філіі польскай дзяржаўнай гімназіі імя Ю. Славацкага адбылася важная „урачыстасьць": пан Астроўскі загадаў сьвяткаваць свае імяніны. На адумысловым сходзе вучні гаварылі завучаныя прамоўкі, у якіх падымалі пад нябёсы „заслугі" пана дырэктара для беларускага народу. Радаслаў адказаў „скромна": ён думае, што ягоныя „заслугі" пераацанілі і таму пастараецца яшчэ лепш „прыслужыцца".. беларускаму народу.

**7 кастрычніка** ў Вільні, як паведамляюць газэты, камуністы раскідвалі нелегальныя адозвы і завешвалі чырвоныя транспаранты, а вечарам рабілі спробы дэманстраваць. Групы, якія зьбіраліся, былі рассейваныя паліцыяй, каторая ўвесь час была на пагатове.

**У Вільні паказаліся** дзьве новыя польскія газэты „Фронт" і „Пшэбоем", якія называюць сябе зусім аткрыта ворганамі „польскага нацыянал-сацыялізму", які паўстае пад уплывам нацыянал-сацыялізму Гітлера. Для характэрыстыкі гэтых „ворганаў" прыводзім некалькі іхных дамаганьняў: 1) „Польшча для палякаў" (і гэта гаворыцца на Зах. Бел.!; 2) „пляновая і энэргічная калянізацыя ўсходніх крэсаў" 3) „прагон жыдоў і іншапляменцаў, якія сваімі чынамі падрываюць павагу дзяржавы". Як бачым, дык у гэтых „ворганах" нічога асабліва новага няма.

**Беларускія гітлераўцы.** Сьледам за выхадам польскіх нацыянал-сацыялістычных газэт, паказалася такая газэцінка і на беларускай мове. Называецца „Новы Шлях". Першы нумар вышаў 25 лістапада. Рэдактары абяцаюць выдаваць газэту „час ад часу", а ў „хуткай будучыні пératварыцца ў палітычную партыю". Газэту падпісвае хадэк Уладыслаў Казлоўскі.

«Новы Шлях» пакуль што сьпявае тоненька, але беларускія сяляне і работнікі на гэтай гітлероўскай птушцы пазнаюцца.

**„Бел. Крыніца" паведамляе,** што Ф. Аляхновіч „узяўся за арганізацыю беларускага тэатру", які будзе мець на ўвазе „толькі беларускую сцэну, а не палітыку". Ясна, што „Крыніца" вітае такі „вялікі" і „апалітычны', пачын. А пакуль той „тэатр", Аляхновіч папісвае зусім палітычныя артыкулы ў „Кур'ер Віленскі", ідучы наўзавадкі з „Крыніцай" у паклёпніцтве на Савецкую Беларусь.

**Работнікі гарадоў Зах. Бел.! Рыхтуйцеся да выбараў у гарадзкія рады, каб правясьці сваіх шчырых прадстаўнікоў!**

## Ці ведаеш, што:

× Адбыліся выбары ў Гішпаніі. Правыя групы здабылі разам 194 мандаты, рэспубліканцы — 110, сацыялісты—38, камуністы—1. Вынікі яшчэ не аканчальныя, бо ў блізу палове вокругаў выбары адбудуцца паўторна 8 сьнежня.

× На аднэй з бэрлінскіх вуліц паліцыя арыштавала 11-гадовага рабочага хлопчыка, які вучыў сваіх таварышоў гаварыць такую малітву да Гітлера: „Прыйдзі, пане Гітлер, будзь нашым госьцем і дай нам адну дзесятую частку таго, што ты абяцаў".

× 18 лістапада ў Вене адбыўся працэс гітлероўца Дэрціля, каторы 3-га кастрычніка зрабіў замах на аўстрыйскага канцлера Дольфуса, лёгка ранячы яго ў руку. Дэрціля засудзілі на 5 гадоў вастрогу.

× Пасьля прызнаньня СССР амэрыканскім урадам, былы расейскі пасол у Амарыцы атрымаў ад Рузвэльта фармальнае паведамленьне, што яго ўжо ня лічаць паўнамоцным прадстаўнікам Расеі.

× Суд у Лейпцыгу засудзіў камун. пасла Рэйхстагу Шнэльлера на 6 гадоў катаргі.

× Сярод француcкіх сацыялістаў аканчальна стаўся раскол. 21 сацыялістычных паслоў на чале з Рэнадэлям наперакор партыйнай дысцыпліне галасавалі за ўрад Даляд'е. Гэтая група творыць цяпер новую партыю.

× У Амэрыцы шырыцца рух фэрмэраў (амэрыканскіх сялян), бязьлітасна зруйнаваных крызісам. Становішча настолькі сур'ёзнае, што губэрнатары Заходніх Штатаў радзяць прэзыд. Рузвэльту згадзіцца з дамаганьнямі фэрмэраў і выдаць грашовую дапамогу. Інакш губэрнатары не бяруць на сябе адказнасьці за магчымыя забурэньні

× Газэты паведамляюць, што Чэхаславацыя зьбіраецца ў хуткім часе прызнаць СССР дэ юрэ (праўна). Маюць распачацца перагаворы.

× Некалькі дзён таму назад у Роўне даразны суд прыгаварыў Андрэя Яўрушыка і Яна Ануфрэйчыка на павешаньне, а Мікалая Міглаўца—на 15 гадоў катаргі. Падсудным закідаўся шпіянаж.

× У адным з кіно гораду Калёнія падчас паказу хронікі з выбарчае кампаніі выбухла стыхійная антыфашыстоўская дэманстрацыя. Калі на экране паказалі Гітлера і пачуліся словы яго прамовы, большасьць глядзельнікаў заглушыла яе крыкам: „Даволі гэтага адурманьваньня! Далоў Гітлера!" Паліцыя арыштавала 225 дэманстрантаў.

× У кітайскай правінцыі Фу-Дзян стварыўся новы ўрад, які абвясьціў сябе незалежным ад ураду нанкінскага. Галоўнай пружынай новага ўраду зьяўляецца Цан-Цін-Кай, камандзір 19 дывізіі, якая аславілася ў пачатку леташняга году абаронай Шанхаю ад японцаў. Новы ўрад выразна антыяпонскі і антыгаміндануаўскі. Генэрал Чанг-Кай-Шэк рыхтуе на ўзбунтаваную правінцыю паход—экспэдыцыю.

× Польскія газэты паведамляюць, што ў Маскве арыштаваны б. пасол Польскага Сойму—Сахацкі. „Роботнік" піша, што кіраўніцтва камуністычнае партыі Польшчы лічыць Сахацкага „агентам дэфэнзывы і II аддзелу польскага генэральнага штабу".

× Вядомы амэрыканскі капіталіст Форд звольніў з працы на сваіх аўтамабільных заводах 45.000 рабочых.

× У Аўстрыі ўведзены надзвычайныя суды і кара сьмерці.

× Савецкая прэса паведамляе, што 17-га лістапада японцы рукамі сваіх манчжурскіх агентаў арыштавалі ў Харбіне 14 савецкіх грамадзян, працаўнікоў КУЧ.

× Японская газэта „Ніці-Ніці" паведлмляе, што ў токійскам гарнізоне арыштаваны і адданы пад ваенны суд 4 салдаты, якія распаўсюджвалі ў арміі кам. літэратуру. Газэта б'е трывогу, што сярод навабранцаў многа камуністаў.

× Савецкая палярная экспэдыцыя прафэсара Шмідта на параходзе „Чэлюскін" акружана ільдамі і прымушана зімаваць на далёкай поўначы. Ледакол „Лідткэ" здолеў падыйсьці да „Чэлюскіна" на 30 міль, але мусіў вярнуцца, каб не зазімаваць таксама.

× У Маскве адчынілася выстаўка польскага рамесьніцтва.

× Кракаўскі „Ілюстр. Кур. Цодз." піша: „У часе вострага страляньня радавы салдат 58 п. п. Міхал Каладзей атрымаў загад занясьці другому салдату шлём. Каладзей загаду ня выканаў, кажучы „Загаду ня выканаю, арыштуйце мяне". Каладзей за невыкананьне загаду засуджаны на 6 месяцаў. Другі салдат Сьцяпан Маркаў за невыкананьне загаду атрымаў 1 год турмы".

× „Роботнік" за 23. XI. піша: „22 студзеня 1934 году ў дзесятыя ўгодкі сьмерці Леніна склікаецца 18 кангрэс камуністычнай партыі СССР, які мае вызначыць ідэёва-палітычны напрамак разьвіцьця на пэрыяд другой пяцігодкі. Цяпер у Маскве адбываецца пленарнае паседжаньне цэнтральнага камітэту камуністычнае партыі".

× Пасьля зацьверджаньня найвышэйшым судом Польшчы прысуду над 10 дзеячамі г. зв. „Цэнтралеву", пракуратура разаслала засуджаным павесткі, каб зьявіліся адседжваць кару. Перад гэтым іх пазбавілі пасольскіх мандатаў. Газэты падалі, што Вітос ужо знаходзіцца ў Празе Чэскай, а пэпээсавец Лібэрман — у Парыжы.

× Нядаўна латвійскі сойм выдаў суду ўсіх 7 камуністычных паслоў, якіх паліцыя тут-жа і арыштавала. Гэта зьвязана з агульным завастрэньнем унутранага становішча Латвіі і з фашызацыяй, якая адбываецца пад пасярэднім і непасярэднім уплывам гітлерызму і яго ваенных плянаў.

× Паводле афіцыяльных пераменшаных даных нямецкага ўраду, безрабоцьце ў Нямеччыне вырасла ад 3.745.000 чал. у канцы кастрычніка да 3.776.000 на 15 лістапада.

× Паміж СССР і Нямеччынай узьнік востры гандлёвы канфлікт. Нямецкія фірмы дамагаюцца ад савецкага гандлёвага прадстаўніцтва пакрыцьця стратаў, якія вынiклі з прычыны зьніжэньня курсу даляра і фунта штэрлінгаў (на аснове гэтых валютаў былі роблены ўмовы). Нямецкі ўрад пастанавіў аддаць справу на разгляд арбітражнай камісіі. Народны камісарыят загранічнага гандлю СССР катэгарычна заявіў, што Саветы ніякага ўдзелу ў арбітражы ня прымуць і не падпарадкуюцца яго пастановам. „Известия" падкрэсьліваюць, што ўся гэтая справа натхнёная нямецкім урадам,

× У Баранавічах акружны суд разглядаў справу сялян в. Жарабковічы, абвінавачаных за пяяньне „камуністычных песень". Атрымалі—па аднаму году: Аляксей Рамановіч, Міхась Зянюк, Міхась Войтуль, Аляксей Таранда, Міхась Яруць Мар'я [illegible] Ждановіч.

× У Наваградку хутка распачнецца суд над беларускімі вучнямі-гімназістамі. Акт абвінавачаньня ўжо атрыманы. Судзіць маюць: Літвіна, Вінара, Главінскаю, Анішчыка, Гуля, Чэрніка, Яўтухоўскую, Ханька і Алексеевіча.

× Сума падпіскі на „нацыянальную пазыку" складае па ўсёй Польшчы 337,641,600 зл. На пазыку падпісалася 5% насельніцтва. На гарады прыпадае 96,1% агульнае сумы, на вёску—3,9%.

## Адказы рэдакцыі.

К. ПРАЦА. Пішыце карэспандэнцыі на іншыя тэмы, больш зьвязаныя з штодзённым сялянскім жыцьцём. Вельмі добра, што вы разумеце, хто такія хадэкі, але займацца толькі імі—няварта. Прывет!

АДОЛЯ. Дзякуем за карэспандэнцыю. Пішыце часьцей і на ўсе тэмы. Чакаем.

КАС-БАЙ. Абедзьве карэспандэнцыі вашы рэдакцыя атрымала. Вельмі добрыя. Адну даем у гэтым нумары, другая пойдзе ў наступным. З ахвотай залічаем вас сталым карэспандэнтам. Пішыце часьцей. Пашырайце нашу газэту, вярбуйце платных падпішчыкаў.

КАМЕНЬ, Карэспандэнцыю Вашу атрымалі, выкарыстаем.

ВЫБАРШЧЫК—АНТСЕМ. Карэспандэнцыю атрымалі, будзя выкарыстана.

М. ЗАСІМ. Вітаем! Пасылайце карэспандэнцыі і вершы.

ВЫБАРШЧЫК — ГАРАСІМ. Карэспандэнцыю выкарыстаем.

БЕДНЯК. Дзякуем за пажаданьні. Карэспандэнцыі атрымалі. Аб старых выбарах з прычын браку месца ня зьмесьцім. Пішыце, як прайшлі новыя выбары.

ВЫБАРШЧЫКАМ В. ТАРКОВІЧЫ. Карэспандэнцыі зьмяшчаем. Пішыце пра далейшы ход справы.

ВЯСКОВАМУ. З карэспандэнцыяў скарыстаем. Пішыце больш поўна і подрабязна.

ШЭЙБАК, БАБАШ і ЮШКЕВІЧ. Газэта Вам высылаецца, дамагайцеся на пошці.

ПАСТУПОВЕЦ. Карэспандэнцыю атрымалі, выкарыстаем.

Рэдактар-выдавец: інж. А. Карповіч. Друкарня Я. Левіна Вільня, Нямецкая 22